№ 14 (3959)

20 лютага 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАРАЎНАЕМ!

# Цэны на прадукты ў Польшчы і ў Беларусі

**Вось якія кошты на некаторыя прадукты ў польскіх Сувалках і ў сетцы мінскіх гіпермаркетаў “Prostore” (для зручнасці пераведзены ў еўра).**

**Пры гэтым трэба адзначыць, што ў снежні 2014 года сярэдняя зарплата ў Беларусі (афіцыйных дадзеных за студзень 2015 года пакуль няма) складала 402 еўра па афіцыйным курсе, а ў Польшчы – 925.**

| Назва прадукту | Цана ў Польшчы | Цана ў Беларусі |
|---|---|---|
| Цукар, 1 кг | 0,42 | 0,61 |
| Сыр цвёрды, 1кг | 3,88 | 4,4–7,79 |
| Тварог зярнёны, 200 г | 0,34 | 0,52 |
| Тварог 9%, 300 г | 0,66 | 1,18 |
| Смятана, 400 г | 0,44 (пры 18-працэнтнай тлустасці) | 0,65 (пры 15-працэнтнай тлустасці) |
| | 0,62 (пры 30-працэнтнай тлустасці) | 0,87 (пры 26-працэнтнай тлустасці) |
| Ёгурт 2%, 400 г | 0,40 | 0,62 |
| Мука в/г, 1 кг | 0,32 | 0,55 |
| Шакалад з арэхамі | 0,51 | 0,81 |
| Мінеральная вада, 1,5 л | 0,23 | 0,38 |

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРАТЭСТ

## *Супраць дэкрэта №5*

Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў накіраваў у Мінгарвыканкам заяўку аб правядзенні пікета ў Мінску 21 лютага.

Мэта акцыі – выказаць пратэст супраць уступлення ў сілу прэзідэнцкага дэкрэта №5 «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый». Пікет плануецца правесці на тэрыторыі сталічнага Парку культуры і адпачынку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. У заяўцы сказана, што ў мерапрыемстве павінны ўзяць удзел каля 50 прафсаюзных актывістаў з усіх чатырох членскіх арганізацый БКДП. Акрамя таго, арганізаваць пікет у гэты ж дзень маюць намер актывісты Свабоднага прафсаюза Беларускага ў Полацку, паведамляе прэс-служба БКДП. Яны вырашылі заклікаць жыхароў горада накіраваць кіраўніку краіны зварот аб прыпыненні дзеяння дэкрэта №5. Заяўкі на пікеты мясцовым уладам падалі таксама актывісты Свабоднага прафсаюза металістаў у Мінску, Магілёве, Гомелі, Жлобіне, Вілейцы і іншых гарадах.

**Сяргей КАВАЛЬЧУК.**

СЛОВА ЮРЫСТУ

## *...Церпяць толькі работнікі*

Да нас, у незалежныя прафсаюзы, актыўна сталі звяртацца работнікі, якім працадаўцы прапанавалі змяніць істотныя ўмовы працы. У адным выпадку – перайсці з 40-гадзіннага на 8-гадзінны працоўны тыдзень, у іншым – скараціць заработную плату. Пры гэтым працадаўцы не тлумачылі прычын, якія прымусілі іх пайсці на такія меры, а толькі спасылаліся на дэкрэт №5. Працадаўцы і раней маглі змяняць істотныя ўмовы працы ў адпаведнасці з артыкулам 32 Працоўнага кодэкса, папярэдзіўшы работніка пісьмова за месяц. Але для такога рашэння павінны былі быць сур’ёзныя прычыны – вытворчыя, эканамічныя, арганізацыйныя. Згодна з заканадаўствам, “істотнымі ўмовамі працы” з’яўляюцца памер заработнай платы, гарантыі занятасці, рэжым працы, разрад, найменне прафесіі, усталяванне альбо адмена няпоўнага працоўнага дня... Цяпер, спасылаючыся на дэкрэт №5, наймальнік паведамляе работніку пра змену гэтых істотных умоў, папярэджваючы пісьмова ўсяго за... сем каляндарных дзён.

Мы лічым, што працадаўцы выкарыстоўваюць дэкрэт №5 для схаванага скарачэння работнікаў. Гэта ўвогуле абсурд, калі з 40-гадзіннага працоўнага тыдня работніка пераводзяць на 8-гадзінны і папярэджваюць пра гэта за тыдзень! Па сутнасці, ідзе прыхаванае скарачэнне, калі наймальнік прапануе работніку загадзя нявыгадныя ўмовы, ад якіх чалавек будзе вымушаны адмовіцца. Таму што пражыць на заробак за восем працоўных гадзін у тыдзень немагчыма. Да таго ж наймальнік памяншае падатковыя выплаты ў бюджэт, а ў работніка памяншаецца стаж, што залічваецца пры разліку пенсіі. І калі працаўнік пагаджаецца з прапановай наймальніка, яму прыйдзецца шукаць дадатковую працу, прычым толькі на паўстаўкі. Таму што асноўнае месца працы ў яго будзе ў ранейшага наймальніка.

Перавод на 8-гадзінны працоўны тыдзень з’яўляецца завуаляваным скарачэннем штатнага раскладу. Работніку памяншаюць стаўку, з поўнай адзінкі скарачаюць да адной пятай. Атрымліваецца, што наймальнік не выконвае гарантыі, прадугледжаныя пры скарачэнні колькасці штата, згодна з якімі ён абавязаны за два месяцы паведаміць работніку аб маючым адбыцца скарачэнні і да таго ж забяспечыць грашовыя выплаты. Такім чынам, дэкрэт №5 дазволіў наймальнікам праводзіць схаванае скарачэнне без выплаты належнай дапамогі і вырашаць гэтае пытанне... у тыднёвы тэрмін. А калі працаўнік не пагаджаецца, то адзінае, на што ён можа разлічваць – звальненне з выплатай двухтыднёвай дапамогі. Але калі раней наймальнік пра гэта павінен быў за месяц папярэдзіць работніка (і ў работніка на працягу месяца захоўваліся ўсе гарантыі, прадугледжаныя яго кантрактам, да таго ж за месяц ён мог знайсці сабе хоць якую працу), то цяпер за тыдзень хіба можна знайсці працу? Мы зараз бачым на канкрэтных прыкладах, што ад дэкрэта №5 церпяць толькі работнікі.

**Жанна ЗАПРЫВАРЫНА,**
**юрыст Незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці.**

УЧОРА

# “Нам чужога не трэба...”



Аляксандр Лукашэнка ў чацвер сустрэўся з камандным складам Узброеных Сіл Беларусі.

*«Вы павінны ведаць: у неабдуманыя, непатрэбныя для краіны авантуры я вас ніколі не ўцягну. Але, калі давядзецца абараняць сваю зямлю і стаяць спінай да спіны, плячом да пляча, вы можаце быць упэўнены, што мяне вы там ўбачыце ў першых шэрагах»,* – заявіў беларускі лідар.

І яшчэ адна цытата.

*«Мы, калі трэба, павінны ўмець абараніць незалежнасць, суверэнітэт нашай краіны, але ніколі не будзем ўвязвацца ў дурныя бязмозглыя супрацьстаянні з кім бы там ні было. Мы будзем праводзіць разумную, стрыманую палітыку: нам чужога не трэба, свайго нікому не аддамо. Гэта сутнасць нашай палітыкі. І калі трэба за гэта памерці, мы будзем паміраць за гэта»,* – сказаў кіраўнік дзяржавы.

ДАРЭЧЫ

Аляксандру Лукашэнку ў час наведвання Міністэрства абароны падарылі аўтамат Калашнікава. Падарунак у спецыяльным футарале кіраўніку дзяржавы паднёс міністр абароны Беларусі Андрэй Раўкоў. Ён адзначыў, што на працягу ўжо некалькіх дзясяткаў гадоў гэта надзейная праверaная зброя запатрабавана ў войсках многіх краін свету.

«Добрая зброя. Мая», – сказаў Аляксандр Лукашэнка, прымаючы падарунак.

И ТАК БЫВАЕТ

## Житель хутора под Гродно придумал, как заставить милицию убирать снег

Мужчина под предлогом буйства жены вызвал наряд милиции, чтобы те проложили дорогу по свежевыпавшему снегу.

«В 00.40 сельчанин вызвал наряд милиции на свою жену, заявив, что она пьяная и не может контролировать свое поведение. Якобы волнуясь за своих детей, мужчина просил правоохранителей приехать и помочь утихомирить супругу. Прибывшие на вызов сотрудники РОВД были удивлены: дети мирно спали, хозяйка была абсолютно трезвой. Супруг признался, для чего ему нужны были милиционеры. Накануне выпал снег, путь к дому замело, а утром детей нужно везти в школу. Видя, что чистить дорогу никто не собирается, решил привлечь к этому делу правоохранителей, чтобы те проложили путь. В итоге телефонный звонок «не по делу» обошелся ему в 520 тысяч рублей плюс расходы, связанные с мерами реагирования. Примечательно, что хозяин находился в трезвом состоянии», написала местная газета «Перспектива».

ГОРЯЧИЕ ТОЧКИ




## Украина зовет миротворцев

Совет национальной безопасности и обороны Украины одобрил обращение к ООН и Евросоюзу касательно развертывания миссий по поддержанию мира и безопасности на территории Украины.

Об этом сообщил журналистам секретарь СНБО Александр Турчинов. В ближайшие дни МИД Украины подготовит обращение о введении в Украину миротворческих контингентов, которое должна утвердить Верховная Рада. По словам Турчинова, миротворцы должны стоять как вдоль линии столкновения в Донбассе, так и вдоль неконтролируемого участка российско-украинской границы.

В ООН назвали два условия для отправки миротворческих сил в Украину. «Обязательно нужен соответствующий запрос от страны, а также мандат, утвержденный Советом Безопасности. Ни того, ни другого на данный момент нет», – заявил заместитель официального представителя Генсекретаря ООН Фархен Хак.

Интересно, что ранее представители “ЛНР” и “ДНР” также высказывались за ввод миротворцев. Однако они хотели, чтобы это были военные России, Беларуси, других стран ОДКБ.

РЕГИОН

## Заказать трамвай на свадьбу можно за 400 тысяч



Новейший трамвай вышел на линию в Новополоцке. Пока экспериментальная модель БКМ-802 проходит обкатку по единственному в городе маршруту и не используется в часы пик.

Производители БКМ-802 обещают 50 процентов экономии электроэнергии. В случае успешного завершения обкатки нового состава «Белкоммунмаш» планирует выпустить еще 8 аналогичных моделей. Общая вместимость трамвая составляет 165 человек.

Кроме традиционной перевозки пассажиров трамвай будет использоваться и на бракосочетаниях. Заказать состав можно хоть на целый день. Стоимость услуги 400 тысяч рублей за один час.

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
**Фото автора.**

*Новополоцк.*

СКАНДАЛ

## *Дапрыпісваліся...*

Яшчэ нядаўна цэнтральныя газеты друкавалі пра гэту гаспадарку матэрыялы з загалоўкамі накшталт “Прыклад, варты пераймання”. Але ў адной з самых вядомых на Гомельшчыне гаспадарак раптам грымнуў скандал.

Камітэт дзяржаўнага кантролю высветліў, што ў саўгасе-камбінаце «Сож» амаль трэць атрыманых малака і мяса існавала... толькі на паперы. Памер прыпісак, якія выявілі кантралёры, уражвае. Прыпіскі валавой вытворчасці малака за 2013 год склалі больш як 3 тысячы тон (больш за 25%), за I квартал 2014 года – 533 тоны (20% ад выробленага). Прыпіскі прываг буйной рагатай жывёлы яшчэ большыя. За 2013 год яны склалі больш за 370 тон, або 31,5% ад гадавога аб’ёму вытворчасці, за I квартал 2014 года – 74 тоны (29% ад аб’ёму), свіней – 3196,5 тоны (28%) і 693,9 тоны (35%) адпаведна.

У дачыненні да намесніка дырэктара гаспадаркі па жывёлагадоўлі і галоўнага заатэхніка распачаты крымінальныя справы. Яны абвінавачваюцца ў перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў. Але ж ці адзіныя такія выпадкі?

ОФИЦИАЛЬНО

## Чтобы ноги не протянули

И в феврале, и в марте в Беларуси повышается тарифная ставка первого разряда.

Тарифная ставка первого разряда повышается в Беларуси с февраля и с марта 2015 года. Как сообщила пресс-служба правительства, такое решение содержится в постановлении Совета Министров №109.

Для оплаты труда работников бюджетных организаций и иных организаций, получающих субсидии, работники которых приравнены по оплате труда к работникам бюджетных организаций, тарифная ставка первого разряда установлена с 1 февраля в размере 277 тысяч рублей, с 1 марта – в размере 292 тысячи рублей.

СОЛИДАРНОСТЬ

## Лидеры ЕС едут в Киев

Европейские лидеры прибудут в воскресенье в Киев для участия в памятных мероприятиях по случаю годовщины гибели людей на Майдане.

Об этом сообщила президент Литвы Даля Грибаускайте.

*«Честно говоря, это приглашение приехать в Киев. В ходе заседания лидеров ЕС, на котором присутствовал президент Петр Порошенко, были приглашены все европейские лидеры»,* – сказала Грибаускайте, отвечая, будут ли приняты какие-то решения в ходе ее визита в Украину.

Президент Литвы отметила, что *«по случаю годовщины гибели людей на Майдане будут проводиться различные мероприятия». «Я встречусь с Петром Порошенко, знаю, что и польский президент Бронислав Коморовский примет участие в мероприятиях, президент Латвии Андрис Берзиньш, а также председатель Европейского совета Дональд Туск, руководители других стран»,* – сказала Грибаускайте.

*«Это будет хороший повод еще раз поговорить, оценить ситуацию и, конечно, выразить уважение погибшим на Майдане»,* – добавила она.

ФАКТ

## Удзячны сын

Мінчанін Міхаіл Гімро выйграў у «Ваша лато» 1 мільярд беларускіх рублёў, а грошы вырашыў падарыць... бацькам.



*«Яны ўклалі ў мяне нашмат больш, таму хочацца аддзячыць іх»,* – патлумачыў Міхаіл. Бацькі – Ала і Мікалай Гімро – да апошняга думалі, што сын замовіў ім столік у кафэ Нацыянальнай бібліятэкі для таго, каб павіншаваць з 37-й гадавінай з дня вяселля. Таго, што падарунак сына будзе такім шчодрым, яны нават не чакалі.

ФОТООБВИНЕНИЕ

## Российские «Панцири-С1» на Донбассе

**Министерство иностранных дел Великобритании опубликовало фотографии новейших систем противовоздушной обороны «Панцирь-С1». Снимки сделаны на востоке Украины 24 января, 4 и 5 февраля. Под ними подпись: «Как распознать российский «Панцирь-С1» (по стандартам НАТО – SA-22), который не находится на вооружении украинских войск». Таким образом фотографии свидетельствуют о военном присутствии России в Украине.**



ДА ЎВАГІ!

**Хто хоча атрымліваць «Народную Волю» з 1 сакавіка – можа аформіць падпіску на пошце па 24 лютага ўключна.**



ЧУЛІ?

## Былі лепшымі прадпрымальнікамі, сталі злачыннай групай

Шэраг кіраўнікоў групы кампаній “ЗОВ” – аднаго з самых буйных беларускіх вытворцаў мэблі для кухні – апынуліся ў СІЗА КДБ.

Як паведаміла прэс-служба КДБ, “спынена супрацьпраўная дзейнасць групы асоб, якая арганізавала маштабную схему ажыццяўлення незаконнай гаспадарчай дзейнасці, звязанай з атрыманнем ценявых даходаў з наступным вывадам сродкаў за межы краіны і нявыплатай падаткаў у асабліва буйным памеры. Злачынная група, у якую ўваходзілі прадстаўнікі кіраўніцтва групы кампаній «ЗОВ», а таксама шэрагу камерцыйных структур, для рэалізацыі схемы выкарыстоўвала падкантрольныя «лжэпрадпрымальніцкія» структуры, зарэгістраваныя затрыманымі ў Беларусі і за мяжой. Распачаты крымінальныя справы. Падазроныя абвінавачваюцца ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у буйным памеры. У затрыманых канфіскавалі «чорную» бухгалтэрыю і іншыя дакументы. Накладзены арышт на дарагія аб’екты нерухомасці, машыны, банкаўскія рахункі”.

Сёння на розных прадпрыемствах групы кампаній «ЗОВ» працуе больш за 2000 чалавек.

СТАА “ЗОВ-ЛенЕўрамебель» (галаўное прадпрыемства групы кампаній) з’яўляецца буйным беларускім вытворцам мэблі для кухняў, гасціных, спальняў, абедзенных зон. На працягу пяці апошніх гадоў СТАА “ЗОВ-ЛенЕўрамебель” “неаднаразова станавілася пераможцам рэспубліканскіх конкурсаў, а таксама не раз было ўзнагароджана дыпломам лепшага прадпрымальніка Беларусі і Гродзенскай вобласці. Прадпрыемства знаходзіцца на рэспубліканскай Дошцы гонару», – паведамляе сайт фірмы.

Вытворчыя прадпрыемствы фірмы працу пакуль не спынілі, але некаторыя офісы апячатаны.

Галоўнымі акцыянерамі групы кампаній “ЗОВ” з’яўляюцца **Уладзімір Зухавіцкі** і яго сын **Алег Зухавіцкі.** Уладзімір Зухавіцкі – заснавальнік бізнесу, вядомы ў Гродне чалавек, пачэсны грамадзянін горада, кіраўнік яўрэйскай абшчыны.

Пакуль дакладна невядома, КДБ мае прэтэнзіі да наёмных менеджараў ці да ўладальнікаў кампаніі.

